*№ 11 „Шл. Мол.“ сканфіскаваны.*

**Год V. Лістапад № 12 (59).**

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 11:





## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

**„Шлях Моладзі“**

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| | | |
|---|---|---|
| Год V. | Вільня, Лістапад 1933 г. | № 12(59). |


## Больш веры ў свае сілы!

Беларусы — народ павольны, гасьцінны, консэрватыўны; мала вера ў сябе самога, у свае сілы, вывышаючы чужынцаў і ўважаючы іх за сільнейшых і разумнейшых. Характэрыстыку нашай гасьціннасьці можна спаткаць нават у далёкай нам і чужой літэратуры.

Наш селянін гасьцінна прымае кожнага чужынца, а нават часта паступае так, як яму чужынец парадзіць, ня гледзячы на тое, што паступкі гэтыя ў сваей аканчальнасьці пярэчаць ягоным сапраўдным ідэалам. Няраз здараецца так, што нясьведамы бацька беларус, наслухаўшыся брэдняў розных прайдзісьветаў, сына свайго, ужо сьведамага беларуса, уважае за ворага. Словам, на колькі прыемна слухаць, ці чытаць аб нашай гасьціннасьці, на толькі цяжка і горка яе перажываць.



Перавыхаваць старэйшае пакаленьне — цяжка. Але можна і трэба вызваліць з чужацкіх уплываў душы беларускай моладзі, каб самастойна і незалежна старалася папраўляць свой лёс, каб пакінула орыентацыі на Маскву і на Варшаву і ня брала сабе за падставу чужых нам тэорыяў:— комунізму, соцыялізму ці якіх іншых. — Нам беларусом ня можна гуляць у інтэрнацыяналізм, арганізуючы мітынгі проціў ...вайны Кітаю з СССР, або заварочваць сабе галаў тым, ці добра жывецца японцам у Японіі, бо мы ім нічым не паможам. Нам трэба перадусім змагацца з тымі балячкамі, якія не даюць жыць нам, беларусом. Наш беларускі народ мае сваю ідэолёгію. Нашы сяляне хочуць зямлі, роднае школы, хочуць мець голас у справах грамадзкіх, хочуць маліцца ў роднай мове і любяць свае народныя абычаі — а ня хочуць калхозаў і саўхозаў, ня хочуць дыктатуры і чужацкіх духоўнікаў, якія рэлігійнае жыцьцё ў нашым краю зводзяць на бездарожжа. Пры тым трэба адкінуць тую няверу ў свае сілы, бо мы ўжо не такія бяссільныя і бедныя, каб не маглі даць самі сабе рады ў жыцьці. Уся баязьлівасьць, што мы без палякоў



ці расейцаў згінем, ці надта нам цяжка будзе жыць — зусім безпадставная. Бо і што-ж нам цяпер палякі ці расейцы даюць — нічога. А тое, што прадаюць нам сваю соль, газу ды жалеза — гэта ніякая ласка. Яны на гэтым добра зарабляюць. Сягоньня напр. мы плацім за кілё польскага цукру 1 зл. 40 гр., а за граніцай Польшч прадае яго па 11 грашоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З Савецкае Беларусі ўсьцяж даходзяць весткі аб частых забурэньнях, „чыстках“, а прыбыўшы нядаўна з Саловак беларускі пісьменьнік-драматург Фр. Аляхновіч расказвае, што на Салоўках і ў канцэнтрацыйных лагерах найбольш Украінцаў і Беларусоў. Што гэта значыць? — Ці-ж на Беларусі найбольш энэргічна працуюць „нацдэмы“? — Напэўна не. Проста — нашы людзі відаць ня маюць нормальных варункаў жыцьцёвых, ня хочуць калхозаў і саўхозаў, ня хочуць маскоўшчыны і за гэта пападаюць у няласку ўладзе. Дык што-ж тады з тых фабрыкаў, ці з тых нават культурных дасягненьняў, калі іх аканчальна перачырківае апошняя рэформа правапісу?!

А цяпер, што да беларусоў пад Польшчай.

**СКАНФІСКАВАНА**

**па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты.**

**С К А Н Ф І С К А В А Н А**

**па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты.**

Я. Н.

*Звычай адкладаць на пазьней забівае і найсільнейшую ініцыятыву. Лішняя асьцярожнасьць і нястача веры ў свае сілы — гэта найвялікшыя ворагі ініцыятывы.*

*О. С. МОРДЭН.*

# Daŭno čas.

Polski literaturny tydniovik „Pion“ (№ 3) padaje cikavyja zaŭvahi polskaha historyka Alhierda Gurki adnosna povieści „Ogniem i mieczem“ viedamaha polskaha piśmieńnika H. Sienkieviča.

Pavodle praf. Gurki, — jaki na padstavie histaryčnych dakumentaŭ sačyŭ za dziejnaściu histaryčnych asob z henaje povieści, — vychodzić, što Sienkievič usie henyja asoby pradstaviŭ naadvarot. I tak: kniaź Jarema Viśniaviecki heta nie— jak pradstaŭlaje jaho Sienkievič — čałaviek biaz zakidaŭ — ščyry žaŭnier i hramadzianin dbały ab dabro Polščy, a „banita“, kryvadušny razbojnik, „okrutnik, knujący zdrady nalewo i prawo“, raz u raz uciakajučy ad voraha z hańbaj dla abaviazkaŭ žaŭniera i načalnika. Kniaź Jarema chacieŭ zamardavać samoha karala dy vyrezać senataraŭ praz pomstu za adkryćcie jahonaha ašukanstva ŭ sudovym pracesie.

Skrzetuski, znany z povieści jak palak i paručnik pancernaha vojska Jaremy — sapraŭdy byŭ Ukraincam, pravasłaŭnym i kazakom z addziełu Firleja.

Ivan Fedorovič Bohun, zvany „Fedorenko“ byŭ kazakom-šlachcicam, słava Ukrainy, užo staršy čałaviek, mieŭ darosłaha syna, nia byŭ niahramatnym, bo pisaŭ dyplomatyčnyja piśmy.

Maksim Kryvanos nia byŭ Ukraincam, a Škotam.

Hassling-Ketling byŭ niemcam, a nia škotam, proźvišča jaho — Heyking.

Vołodyjoŭskich było šeść čałaviek. Usie šlachta, słužyli ŭ vojsku Chmielnickaha ŭ Bracłaŭskim pałku.

Pałkoŭnik Čehrynski Stanisłaŭ Krzečkoŭski, jakoha, pavodle Sienkieviča, ubili palaki na koł (1648) sapraŭdy pamior ŭ pałonie ad ran na dvary kniazia Januša Radziviłła (1649). Niazhodny taksama z praŭdaj i histaryčnyja padziei ŭ povieści Sienkieviča.

A kali heta tak, dyk užo vialiki čas vykinuć hetu povieść z biblijatek školnych i nia prymušać moładzi da jaje čytańnia.

*I. M.*

---

B. S.

# Za kitajskim muram.

Niama na śviecie ničoha novaha — kažuć ludzi...

Ale z usich krajoŭ, jakija tolki jość na śviecie, moža najbolš padychodzić heta da Kitaju. Navat najstarejšyja dziaržavy sučasnaj Eŭropy majuć za saboju mała bolš, jak tysiačaletniuju historyju. Adnak na praciahu hetych tysiačŭ hadoŭ navat najbolšyja histaryčnyja padziei paŭtaralisia niaraz.

Što-ž tady možna skazać ab Kitaju, jaki maje za saboju nia tysiaču, ale kala piacioch tysiač hadoŭ historyi?

Ci-ž kitajcy nia bačyli ŭžo ŭsiaho, što tolki možna ŭbačyć, što možna pieražyć, što tolki možna vyabrazić sabie z tych padziejaŭ, jakija ŭstrasajuć ludzkaju hramadzkaściu? Na praciahu bolš čatyroch tysiačahodździaŭ niekalki razoŭ navat pieražyli jany i chatnija vojny i revalucyi socyjalnyja i napady z boku čužych narodaŭ i ŭsiakija naturalnyja katastrofy—a paśla ŭsiaho hetaha Kitaj astaŭsia Kitajem: ahramadnaj dziaržavaj, vialikim narodam, jaki apiraŭ svaju mahutnaść na sotniach milijonaŭ ludziej, žyvučych padobnym žyćciom.

Toje, što ciapier robicca ŭ dziaržavie Žoŭtaha Smoka, jość biazsumnivu vialikim niaščaściem dla kitajcaŭ. Japonski napad adbiraje ad ich usiu poŭnač, z stalicami synoŭ nieba Dželiolam i Pekinam, udaraje ŭ važny punkt handlovy Šanghaj, zabiraje ad ich party nad Žoŭtym moram i važnyja čyhunačnyja linii, jakija łučyli Kitaj z Sibiram, z Rasiejaj i pasredna z Eŭropaj.

Sposab, u jaki Kitaj reahuje na heta — słabaść, z jakoj adkazvaje na mahutnyja, biazlitasnyja ŭdary japonskaha aružža, śviedčyć tolki ab hłybokim upadku samoha Kitaju. Bolš dvaccacioch hadoŭ minuła z taho času, kali kitajskaja revalucyja źniščyła carski ład u Kitaju -- i z taho času Kitaj pastupova raskładajecca. Chatniaja vajna niščyć paasobnyja provincyi, a pryrodnyja pošaści niščać vialikija reki i rehulacyju ichnych vodaŭ. U vyniku hetaha i źjaŭlajucca ŭsiakija zarazy i hoład.

Ci ŭsio heta aznačaje kaniec Kitaju? Budu śmiełym i adkažu na heta pytańnie katehoryčnym — „nie!" U Kitaju ŭsio heta ŭžo było, kitajcy pieražyli heta ŭžo niaraz, pieražyvuć i ciapier.

Eŭropejskamu (nia tolki biełaruskamu), navat aśviečanamu hramadzianstvu, spravy hetyja mała znajomy dziela taho, što siarod historyjaŭ dziaržavaŭ i narodaŭ, jakija navučajucca ŭ škołach, historyja Kitaju amal što nie adyhryvaje nijakaj roli. Dyk voś ciapier, kali padziei ŭ Kitaju šyraka raźvivajucca — varta paznajomicca choć z ahulnymi rysami kitajskaj historyi i z asablivaściami jaje na praciahu niekalkich tysiač hadoŭ raźvićcia.

Dzie šukać pačatku kitajskaj historyi?

Kali idzie ab čas, dyk siahaje jana da dvaccaci piaci viakoŭ pierad Naradžeńniem Chrysta. Hetkija daty padajuć: kitajskaja „Kniha Historyi" (Šu-Kiu), aŭtorstva jakoj prypisvajuć Konfucyju — katoraha možna ŭvažać za kitajskaha Majsieja, i hetak zvanaja „Chronika Lu", z 722 hodu pierad našaj eraj (pierad Naradžeńniem Chrysta). Pavodle hetych krynicaŭ, historyja pieršych uładaroŭ Kitaju siahaje jašče da 2357 hodu,

a paŭstańnie adzinaj kitajskaj dziaržavy — da 220 hodu pierad našaj eraj.

Kali idzie ab pisanyja žarały, dyk danyja adnosna kitajskaj historyi tolki niadaŭna stalisia dastupnymi eŭropejskaj navucy. Doŭha byli jany kitajskaj tajnicaj. Toje, što navučałasia i što było ahulna znanym, heta byli ŭspomnienyja knihi Šu-Kiu Konfucyja i chroniki.

Aprača hetaha, krynicy i dakumenty kitajskaj historyi znachodziacca pieradusim u buddyjskich manastyroch, jakija ad tysiačy hadoŭ z zajzdraściu pierachoŭvajuć prastaryja dakumenty, pisanyja rukoj u roznych movach i dyjalektach, užyvanych na abšary kitajskaj imperyi; hetyja dakumenty zaklučajuć u sabie ŭsiu historyju, filozofiju i relihijnyja vieravańni kitajcaŭ.

Akramia hetaha buddyjskija manachi kultyvujuć žyvuju tradycyju ŭ asobie „žyvoha Buddy".

Hety „žyvy Budda" znaje, pavodle vieravańniaŭ buddyjcaŭ, usie tajnicy kitajskaj mudraści i historyi, źjaŭlajecca ŭ tajomny sposab duchoŭnym naślednikam „zakonnych" kitajskich caroŭ, apošniaja dynastyja jakich vymierła ŭ 1644 h. (u toj čas na kitajskim pasadzie zasieła zachopnickaja mandžurskaja dynastyja).

A ciapier vierniemsia da historyi Kitaju.

Pieršyja viestki majem pradhistaryčnaha, abo lepš archeolohičnaha charaktaru. Aŭtoram ich źjaŭlajecca archeoloh Andersen. Jašče na 3000 hadoŭ pierad našaj eraj, na abšarach abapał vialikaj raki Jantsekjanhu, jakaja siańnia tvoryć jadro Kitaju, isnavała dziaržava i hramadzianstva, stvoranaja — jak i ŭsie pieršyja dziaržavy pałožanyja nad vialikaj rakoj — nieabchodnaściu rehulavańnia vylevaŭ hetaje raki. Užo tady isnavała tut peŭnaja kultura, zvanaja „pieradkitajskaju". U hetym-ža časie prybyli siudy Kitajcy, jak čužy, zachopnicki element. Chutka jany apanavali kraj, častkova źniščyli miascovuju kulturu, a častkova prysvoili sabie i vytvaryli, źmiašaŭšysia z tuziemcami, novy narod i novuju rasu.

Abšar hetaj najdaŭniejšaj kitajskaj dziaržavy abymaŭ mienš-bolš vadazbornik Jantsekjanhu (adna z najbolšych rek u śviecie) i na poŭnač vadazbornik Hoangho — abapał raki Siniaj i Žoŭtaj — až za siańniašni Pekin na poŭnač i da mora na ŭschod.

Hety prastor, pradstaŭlajučy moža čaćviertuju častku siańniašniaha Kitaju, nia byŭ adrazu adzinaj samastojnaj dziaržavaj. Na 2000 hadoŭ pierad našaj eraj było tam kala 10.000 mienšych dziaržaŭ, jakija vajavali pamiž saboj i nad jakimi ahulnuju ŭładu mieŭ adzin z uładaroŭ, najsilniejšy ŭ danym časie. Pastupova hetyja dziaržavy złučalisia, małyja uładary źnikali — hetak dajšło da adzinaha carstva Kitaju

(*d. b.*)

# Літэратурны аддзел.

## КЛІЧ ВОЛІ.

Хай волі гром грыміць і будзіць тых, што дрэмлюць,
Што дзень і ноч ляжаць у мляўкасьці пуху;
Пра дабрабыт сабе пакорна злыдняў скемлюць,
Выцягваюць сваю расьпешчану руку.

Магутнай волі кліч хай Край увесь абудзіць.
Ягону мляўкасьць хай зварушыць, ўскалыхне;
Хай злыдняў, ворагаў сваіх належна судзіць,
Да творчай дзейнасьці народ увесь папхне;

Валье у сэрцы нам амбіцыю і гордасьць,
Прагоніць нам з душы наш мляўкі пацыфізм,
Што векі цэлыя няволіў нам бадзёрасьць,
Паганіў кволасьцю народны арганізм.

Хай воля праз наш Край маланкай пранясецца,
Бадзёрасьці агнём асьвеціць ўвесь народ,
Ў змаганьня моры ён як хваля ўскалыхнецца
І пойдзе, як віхор за воляй упярод.

Хай воля наша так з імпэтам пранясецца,
Каб скорчылась уся, дзе толькі ёсьць мана,
Хоць пекла ўсё да дна ад гневу затрасецца
І перапудзіцца галоўны сатана.

Але ня збудзіць вас, вы, мляўкія натуры,
Пацыфістычныя і кволыя трусы!
Змаганьне, дай і сьмерць—вам вобраз за пануры.
На печы ў кажуху — там вашы галасы.

Аб незалежнасьці, аб долі і свабодзе
Адтуль патрапіце гаворку вы пачаць.
Як здарыцца калі сядзець вам на парозе —
—Вы тонам еўнуха пачнеце на‘т крычаць.

Але выконываць загады сільнай волі,
Змаганьне, дзеяньне, драпежнасьць паказаць —
О, гэтага, дык вы ня зробіце ніколі!
Пра мляўкі супакой пачнеце тут казаць...

Дык будзе ўсё бяз вас, вы, мляўкія натуры,
Пацыфістычныя і кволыя трусы.
Змаганьне, бой і сьмерць—вам вобраз за пануры—
—На печы ў кажуху — там вашы галасы.

**Казлоўшчык.**

## З ЦЫКЛЮ — ПЕСЬНІ АБ ХЛЕБЕ.

З траплом ў руццэ, у старой, старой адрыні,
Стаю ля плоймы лёну на калу.
Па злоту ў дзень! — вось сэнс жыцьця адзіны —
Жыдоўскі лён траплю, траплю, траплю.

Траплю лянок!... Мяцелюцца валокны,
Кастрыцца замецьцю кастра і пыль*)
Падходзіць жыд — пузаты і нягодны —
— А колькі ві тут вітрапалі кіль?

Тут гэта дрэнь — ня дрэнь, а працадаўцы
Усе пакорны гэтай п'яўцы тут,
Ён чыста лічыць кіль да дваццаць
У адзін звычайны, стары пуд.

Ды тут да крыўд, да працы і клапотаў
Здаўна прывык вясковы пралетар.
За марны грош дрыжыць перад марнотай
Ніхто ня плюнець гэтай п'яўцы ў твар.

Чах-чах, чах-чах — рытмуюцца узмахі,
Чах чах, чах-чах—адзіны сэнс лаўлю
За злоты ў дзень! — бяз думак і развагі
Лянок жыдоў траплю, траплю, траплю.

Там „Нёман" пішыць—пэўна хутка, хутка
Міхась вялізным будзе песьняром,
А я стаю бяз радасьці і жутка,
Як Дон-Кішот махаючы траплом.
Глытаю пыль...*)
Баляць мне моцна грудзі...
Прамокшых ног, сагрэць нат' не магу,
Махнуў на ўсё!... што будзе — тое будзе
І лён жыдом траплю, траплю, траплю.

Прыму усё... цьвярджу сабе — так трэба.
Маўчы, маўчы бунтуючае сэрца.
Сьпяваю цыкль аб чорнай лусьце хлеба
Усіх, што гінуць сёньня ў паняверцы.

**Міхась Машара.**

* * *

Вітай, вітай, зіма, халодна наша маці!
З далёкіх ты да нас вярнулася краёў!..
Іскрыцца сьнег на белай сенажаці
І цэлы сьвет блішчыць пад палатном сьнягоў...
    Вітай, вітай, зіма, сьняговая красуля!
    Шырока ты лягла сярод лясоў, лугоў...
    Ледзь падышла, мяцеліцай дыхнула
    І беліць сьнег платы і сіню даль палёў...

**А. Бярозка.**

---

*) пыль—русыцызм; пабеларуску пыл — рэд.

**Bajki J. Vilkoŭščyka:**

## RAZUMNAJA VARONA.

Što treba trochi pamudryć —
Byvaje tak na świecie časam.

Voś raz spažyŭšy ŭdoval miasa
Varona zachacieła pić.
Zabyty ŭ poli trafam hlak
Znachodzić napałam z vadoju.
Dyj tut spatkałasia z biadoju,—
Bo dziubu doŭhaha joj brak.
Kamieńnie — drobny žarstviak
Pa poli chodzić i źbiraje
I nosić ŭściaž i ŭsio kidaje
U znojdzieny z vadoju hlak.
Pakul u jom nie padniałasia
Vada, — i niejak napiłasia.

Viadoma, na varony hołaŭ
Takaja vydumka mudrona.
Być moža rozum Salomona
Zradzić padobnuju by zdoleŭ.
Daremna praca! Bo durnoju
Varonu łastaŭka nazvała.
I praŭda: — rečka praciakała
Ŭ łahčynie pola, za haroju.

Tak časam my maročym hołaŭ
Nad sposabam jakim mudronym
Mazolnaj pracaju varony,
Byvajem blizkimi raźziovaŭ,
Što ŭvierch lanujucca padniacca,
Kab z miescam dobra zapaznacca.

## ZAJZDRAŚĆ.

Pierad vyrajem na hali
Ptuški razam bal davali.
Ci ŭ pamyłku tut ci trafam
Krumkača nazvali hrafam.
Voś varona jak zhadała,
Što dla svajaka tut sława —
Pačała snavać staracca,
Kab hrafiniaj niejak stacca...

Ptuški heta adhadali, —
Pašaptali, pamaŭčali
I ničoha nie skazali...
Adnak niechta z ich:—„Varona!,
Choć ty z im i spakraŭniona,
Dy nie pa tabie karona".



**Č. A.**

* * *

(*Z A. Apuchcina*).

Hrymieła muzyka, hareli jarka śviečy,
Z taboju razam ja na viečary hulaŭ,
Dryžeła ty usia, tvaje pyłali plečy,
Tak vietliŭ hołas byŭ, tak hutarka darečy;
Dy ja ŭ niapeŭnaści nia vieryŭ i maŭčaŭ.
U ciažki,sumny čas apošniaha rasstańnia
Viasioły tvaram ja pierad taboj stajaŭ,
Mnie hrudzi rvalisia ad muki i niaznańnia...
Akrytaja tuhoj, čakała ty pryznańnia...
U niaprytomnaści ciarpieŭ ja i maŭčaŭ.
Ja jechaŭ. Viŭsia šlach, kanca nia bača voka ..
Ja dumaŭ ab tabie, ja ŭsio prypaminaŭ,
Ciapier ja ŭciamić zmoh, ja palubiŭ hłyboka,
Ja havaryć chacieŭ, dy ty była daloka,
A viecier vyŭ kruhom... ja płakaŭ i maŭčaŭ.



# Dla našych małodšych.

## SIROTKA JANKA.

Horka žyć na śviecie
Kruhłym siratoju:
Horka dola ŭ lecie,
Horš jašče zimoju.

Voś sirotka Janka:
Baćki jon nia znaje,
Jak pamiorła matka —
Krychu pamiataje.

Chudzieńkaje cieła,
Tvaryk jaho bledny,
Cichi i niaśmieły
Miž dziciami biedny.

Janačku trymajuć
Z žorstkim sercam ludzi:
Apranuć nia dbajuć —
Holeńkija hrudzi.

Z dziciaci małoha
Łaski jon nia znaje,
I rodnych nikoha
Janačka nia maje:

Baćkam jamu — hoład,
Matkaj — złaja dola,
Bratam jamu — choład,
A siastroj — niadola.

O, sirotki dzieci!
Ŭmytyja ślazoju
I dla vas zaśviecić
Soniejka paroju...

*A. Žuk.*

## KAŁYCHANKA.

Špi spakojna, śpi sakole,
Špi sałodkim snom —
Płača sumny viecier ŭ poli,
Stohnie za vaknom...

Ciažka tata tvoj stamlony
Pakidaje śviet —
Loh na tvaru cień zialony,
Horkaj muki śled.

Chvelka skončyŭ damavinu
I chvajovy kryž —
Jdzie apošniaja časina:
Ty synočak śpiš.

Ŭstań, synočak, hlań na tatu,
Hlań apošni raz —
Zachavaj u sercy śviata
Tatački abraz.

. . . . . . . . . . . .

Jak-ža ciažka, jak baluča
Tam — pad dzirvanom,
Kali syn na rodnaj nivie
Hniecca pad jarmom...

Kaliś prydzieš pamalicca
Na mahile toj —
Zrazumieješ, čom ziamlica
Rodnaja — skałoj...

Zrazumieješ, jak ŭ zmahańni
Siły nabirać,
Za kaho — ŭ śviatym zarańni
Ich paśla addać...

A ciapier, choć viecier ŭ poli
Płača nad kryžom —
Śpi spakojna, śpi sakole,
Śpi sałodkim snom...

*V. B.*

# Ahoń i zapałki.

U daŭnych, daŭnych časoch ludzi ŭvažali ahoń za niejkaje bostva. Na češć ahniu budavali pryhožyja śviatyni, dzie połymia jahonaje na pačotnym miescy pyłała całymi sotkami hadoŭ. Zusim heta nia budzie adnak vyhladać dziŭna, kali voźmiem pad uvahu tahočasny ŭmysłovy stan ludziej i ich žyćciovyja abstaviny.

Tysiačy hadoŭ tamu nazad ludzi ahniu nia mieli, jany jaho šukali tak, jak ciapier šukajuć darahacennych kamieńniaŭ. Zdabyvali jaho prypadkova. Voś dzieś udaryŭ piarun u dreva i jaho zapaliŭ: tady tolki čałaviek, razumiejecca, z vialikaj aściarožnaściu i stracham, braŭ haračuju hałuzinu dreva i karystaŭ z ahniu, pilnujučy, kab jon nia moh pahasnuć.

Z časam ludzi pačali dabyvać ahoń tručy dreva ab dreva, paźniej iznoŭ, majučy žaleza, pačali jaho dabyvać pry pomačy krasiva, kremiania i hubki. Ciažki heta byŭ sposab dabyvańnia ahniu, ale ŭžo byŭ postup vialiki.

Paśla hetaha vydumali zapałki, jakija zapalvalisia pry złučeńni ich z sierkavym kvasam; paśla — zapałki z šklanoj hałoŭkaj, katoruju treba było razdušvać specyjalnymi ščypčykami i tady jany zapalvalisia i jašče paźniej — fosfarnyja zapałki, katoryja zapalvalisia pry vielmi słabym nahravańni, štoś kala 60⁰. Paŭstavali ŭžo navat fabryki hetkich zapałkaŭ, a sioleta prypadajuć 100-ja ŭhodki pieršaj takoj fabryki.

Fosfarnyja zapałki mieli adnak mnoha zahanaŭ. Pry ich zapalvańni paŭstavaŭ farmalny vybuch i niapryjemny zapach. Viek fosfarnych zapałkaŭ nia byŭ doŭhi, bo voś minaje ŭžo 63 zdajecca hod, jak ludzi ŭžyvajuć novych, h. zv. švedzkich zapałkaŭ, jakija ŭ svaich hałoŭkach nia majuć fosfaru, ale sierku i inš. materyjały i susim zdavalajuć našy patreby. Nia značyć adnak heta, što my moža jašče nie dačakajemsia zapałkaŭ novych, bo voś nia tak daŭna ŭ hazetach pajaviłasia viestka, što zahranicaj vydumyvajuć zapałki h. zv. „viečnyja“, duža praktyčnyja, bo možna budzie ich zapalvać niekalki razoŭ.

Pamima ŭsiaho hetaha, my biełarusy adnak varočajemsia siahońnia da krasiva kremiania i hubki. Zapałki ŭ nas stanoviacca luksusam. Chto-ž ich maje, to toj ščapaje adnu štuku na dźvie ci čatyry časci, kab na daŭžej ich chapiła. Heta, biazumoŭna, dokaz biednaty našaha narodu i nakaz, kab my staralisia iści razam z žyćciom, raźvivajučy svaju kulturu i svaju haspadarku.

*J—k.*

*Čužaja siła pavinna nas zaachvoćvać da pavialičvańnia svaje siły!*

# Вацюковы суботнікі.

Зьмяркалася. Апошнія бляскі заходзячага сонейка гарачай чырваньню адбіваліся ў вокнах невялічкай хаты новазабудаванага хутара. У хаце каля вакна стаяў гаспадарскі сын Вацюк і сумнымі вачыма задумана ўглядаўся на дарожкі, вядучыя да іншых хутароў. Невясёлая была ягоная доля. Дайшоў ужо да пятай клясы гімназіі, вучыўся добра, лятуцеў аб далейшай навуцы, аж тут раптам прымушаны быў вярнуцца да хаты — бацька ня змог плаціць за навуку. Бацька цешыў яго, што гэтая бяда міне, і што ўзноў паедзе вучыцца, але змарнаваны школьны год ды расстаньне з таварышамі прыбілі яго бурную вясёласьць. Вось і цяпер ня прыймаў Вацюк удзелу ў шумнай гульні малодшых братоў на панадворку; думкамі блудзіў ён нейдзе далёка: можа ў школьных мурох адрабляў лекцыі з таварышамі, — мо' слухаў якога цікавага расказу, мо' ў кіне прыглядаўся абразом з жыцьця далёкіх краёў? Хто ведае, хто разгадае...

— На скрыжаваньні двух дарог, недалёка ад хутара, паказаліся фігуры трох хлапцоў, з другога боку дзьвюх дзяўчын хуткім шагам прыбліжаўшыхся да Вацюковай хаты.

Вочы Вацюка павесялелі: „ужо ідуць — гэта добра“— шапнуў ён і кінуў вокам па сваім пакойчыку. Невялікі, але вельмі чысты, з вазонамі кветак на вокнах, з прыгожымі малюнкамі на белых сьценках, з столікам, заложаным кніжкамі, рабіў ён вельмі мілае ўражаньне. Добры бацька, разумеючы патрэбы сына, які што раз больш вучыўся і мусіў мець дзеля гэтага свой спакойны куточак, адгарадзіў яму маленечкі пакойчык. Аглядзіўшы, ці ўсё ў парадку, Вацюк накіраваўся да дзьвярэй, якія ў гэты мамэнт адчыніліся і чаканыя госьці ўвайшлі ў хату.

— Добры вечар, Вацюк, весяла зазьвінелі галасы.

— Добры вечар, ледзь я вас дачакаўся.

— Праўда? — але і нам нялёгка дачакацца нашай мілай суботы: сказаў Яська.

— Я-б хацеў, каб было сем суботаў у тыдні: — кінуў наймалодшы з грамадкі, Кастусь.

— Усе засьмяяліся.

— Не хапіла-б кніжак у Вацюка, каб так кожны вечар чытаць — адказала Настуля.

— Эх, кніжак то можна дастаць, адазваўся самы старшы Паўлюк, толькі што кожны з нас сваю работу ў гаспадарцы мае, то і часу не хапіла-б на штодзеннае чытаньне.

Ды і так нам часу ня хопіць, калі марнаваць яго будзем на пустыя гутаркі, умяшалася маўчаўшая дагэтуль Анелька. — Пачынай Вацюк!

— Добра кажаш, Анелька, зараз паклічу Марылю.

— Марылячка, усе ўжо зыйшліся, хадзі і ты ды давай агонь: — клікаў Вацюк малодшую сястру — сваю найлепшую таварышку, якая таксама вучылася ў гімназіі і перайшла ўжо ў 3-юю клясу, а цяпер таксама як і ён чакала ў хаце лепшых часоў.

— Іду, іду — весела адклікнулася Марыля.

— Было ўжо сусім цёмна. Моладзь нецярпліва чакала лямпы і пачатку чытаньня. Не хацелася ім траціць ні хвілінкі ў гэты іх дарагі „суботнік". Мілыя сьцены маленькага пакойчыку!... Раз паважныя, цікавыя, другі раз вясёлыя чытанкі зьвязвалі цесна гэтую жменьку моладзі паміж сабой, рабілі яе нейкай сусім адменнай ад рэшты вясковых дзяцей.

Тымчасам чаканая ня прыходзіла.

— Што там сталася — занепакоіўся Вацюк і пайшоў шукаць сястру.

Па хвілінцы вярнуўся адзін, нездаволена кажучы:

— Вось і пачыталі — Марыля забылася, што няма газы, а наша лямпа пустая і няма чаго запаліць. — Нарабіла бяды, а цяпер сама плача.

— Ёсьць чаго плакаць, пайду па яе, пасьпяшылася Настуля.

— А ты, Вацюк, лучыну засьвяці, парадзіў Кастусь.

— Які гэта сьвет ад лучыны: махнуў рукой Паўлюк, больш дыму, чым агню.

— Праўда, што пры лучыне чытаць блага, вочы баляць, адказаў Вацюк, але падумайце, як нашыя дзяды іншага агню і ня зналі? — Усе лучынамі сьвяцілі. А я нядаўна чытаў, што даўна, даўна перад вякамі людзі ня ведалі іншага асьвятленьня чым полымя вогнішчаў.

— Зрабі і ты вогнішча — у печы — зажартаваў Яська, усё-ж весялей будзе, чым у пацёмку сядзець.

— Маеш рацыю, зараз будзе зроблена, згадзіўся Вацюк і пайшоў па дровы.

(*Працяг будзе*).

**Л. Войцікава.**

## KUTOK ŚMIECHU.

* * *

Vučyciel: — Kim byŭ św. Paŭła?
Vučań: — Nia viedaju.
Vučyciel jamu padkazvaje: Ap-Ap-Ap
Vučań: — Aptekarom!

* * *

—Nu jak tam, synok, z ekzaminam?
—A ničoha, raz dva i pa ŭslom, tolki treba budzie jašče raz paŭtaryć.

* * *

— Skažy mnie, Janka, ci adkryŭśa Ameryki, Kolumb, kab ciapier žyŭ, ci uvažali-b jaho za niazvyčajnaha čałavieka?

— A, tak, panie vučyciel, jon-ža mieŭ-by ciapier blizka 500 hadoŭ.



# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

**Рэфэрат аб зьмене беларускага правапісу ў Б.С.С.Р.** 28.X. с. г. Віленскі Аддзел Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ладзіў у залі Інстытуту (Вільня, Завальная 1—1) рэфэрат з дыскусіяй аб зьмене беларускага правапісу. Рэфэрат чытаў др. Я. Станкевіч. З рэфэрату, а так-жа і з дыскусіі выявілася, што савецкая рэформа беларускага правапісу ў Б.С.С.Р. зьяўляецца для беларусоў ня толькі што не карыснай, але шкоднай, бо русыфікуе самую беларускую мову.

**Беларускія коопэратары працуюць.** Беларускія коопэратары, згуртаваныя пры беларускай коопэратыўна-гаспадарчай часопісі „Самапомач," апошнім часам праяўляюць энэргічную дзейнасьць. Месяц сьнежань с. г. прысьвячаюць яны беларускай коопэрацыі, падчас якога самі будуць старацца яшчэ больш пашыраць сярод беларускага народу думку коопэрацыі і да гэтае працы заклікаюць усіх, хто толькі можа і хоча памагчы беларускаму народу папраўляць свой быт. Гэтыя-ж самыя беларускія коопэратары арганізуюць Завочны Коопэратыўны Курс, які будзе трываць 5 месяцаў. Праграма Курсаў паважная. Падробныя інфармацыі аб Курсах падаём у асобнай абвестцы ў гэтым нумары на вокладцы. — Моладзь беларуская не павінна прапусьціць гэтае аказіі здабыцьця лёгкім спосабам, бо седзячы дома і за маленькую заплату, веды і дзеля гэтага павінна заразжа запісвацца на Завоч. Кооп. Курс пры рэд. „Самапомачы".

**Суд над вучнямі Наваградзкае Беларускае Гімназіі.** Голасная справа вучняў Наваградзкае Беларускае Гімназіі і сьледзтва над ей, у хуткім часе будзе разглядацца ў Акружным Судзе ў Наваградку. Суд адбудзецца хіба неўзабаўкі, бо ўжо даручаны абвінавачаным б. вучням ад 5 да 8 кл.: Анішчыку, Літвіну, Чэрніку, Вінару, Гулю, Главінскай, Ханьку, Аляксеевічу і Еўтухоўскай акты абвінавачаньня. — Трэба адзначыць, што да гэтай пары няма яшчэ ніякага адказу на пасольскую інтэрпэляцыю, якая раскрыла спосабы праводжанага паліцыяй сьледзтва сярод вучняў беларусоў.

**Пагроза выдаленьня беларускіх вучняў з Бел. Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні.** З прычыны неўнясеньня аплаты за навуку за першыя паўгодкі

сёл. шк. году, бадай што палова вучняў Бел. Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні пагражае выдаленьне з гімназіі. Справай гэтай павінна бліжэй зацікавіцца беларускае грамадзянства.

**Канфіската „Беларускае Крыніцы“ і апячатаньне яе набору.** 17.XI. с. г. па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты паліцыя сканфіскавала № 40 „Бел. Крыніцы“ і апячатавала набор гэтага нумару. Пячаці з набору, па адпаведных захадах перад адм. уладамі, былі зьняты аж 20.XI. і наступны №41 гэтай часопісі з белымі плямамі вышаў толькі 21.XI.

**Беларускае грамадзянства і моладзь памятуюць аб сваіх паэтах.** Сёлета 2.XI. падчас каталіцкіх Задушкаў беларускае грамадзянства і моладзь, за прыкладам мін. гадоў, грэміяльна адведвала могілкі беларускіх паэтаў Ядвігіна Ш. і К. Сваяка, пахаваных на віленскіх каталіцкіх могілках Роса. Над могілкамі паэтаў, у прысутнасьці вялікага натоўпу народу, хор, пад кіраўніцтвам грам. А. Стэповіча, стройна выканаў некалькі беларускіх песьняў, моладзь злажыла прыгожыя кветкі, а стар. грамадзянства паставіла многа сьвечак.

**Беларускі Тэатр.** Ходзяць чуткі, што прыбыўшы з Саловак беларускі драматург артыст Фр. Аляхновіч у хуткім часе прыступе да сарганізаваньня Беларускага Тэатру, які мае ладзіць беларускія прадстаўленьні ў Вільні і на правінцыі. Пачынаньні гэтыя вітаем і жадаем ўдачы ў працы!

**З дзейнасьці Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б.** 11.XI с. г. у VII залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсытэту У.С.Б. адбылося распачацьце працы Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. у новым акадэмічным годзе. Першую лекцыю на тэму: „Пахаронныя абрады ў Славян“ ч. I чытаў абс. этн. У.С.Б. М. Пяцюкевіч. Далейшую II гую частку гэтае лекцыі чытаў той-жа прэлегент і ў тэй-жа залі 19.XI.

**З жыцьця беларускіх студэнтаў.** — 4.XI с. г. Беларускі Студэнскі Саюз У.С.Б. у Вільні ладзіў у залі Бел. Інстытуту Г. і К. сяброўскую запазнаўчую вечарынку, на якой быў прысутны Куратар Саюзу праф. Кошмідэр і больш 40 студэнтаў, пераважна нядаўна паступіўшых на Унівэрсытэт і ў Студэнскі Саюз. — 12.XI. с. г. у галоўным будынку У.С.Б. адбыўся Агульны Гадавы Сход Беларускага Студэнскага Саюзу, на якім выслухана была справаздача ўраду і Рэвізыйнае Камісіі з дзейнасьці ў мін. акад. годзе, дана ім абсолюторыюм з падзякай за ахвярную працу і пасьля выбраны новы ўрад Б.С.С. на бягучы акад. год у наступным складзе: старшыня— Ю. Кепель, віцэ-старшыня — В. Войтэнка, сэкрэтар — В. Тумаш, скарбнік — А. Тышкевіч і гаспадар — Радзюк. У склад новае Рэв. Камісіі Б.С.С. выбраны: Мілючанка, Залкінд і Бурак. — 18.XI. с. г. у памешканьні Б.С.С. (Вільня, Боніфратэрская 2—3) адбыўся літэратурны вечар, на якім студ. Я. Хвораст прачытаў сваю новую драму „На пераломе“.

**Корпорацыя „Скарынія“ памятуе аб слуцкіх паўстанцах.** Дзякуючы стараньнем студэнскае корпорацыі „Скарынія“ 18.XI. с. г. у Сьв. Духаўскім манастыры адбыўся малебен за палёгшых беларусоў падчас Слуцкага Паўстаньня проціў бальшавікоў, а 19 г. м. у памешканьні гэтае-ж корпорацыі сябра ейны Г. Багдановіч чытаў рэфэрат аб тым-жа паўстаньні. Усё гэта добра, але пажадана было б, каб „Скарынія“ ня толькі заняла здэцыдаванае і яснае становішча адносна бальшавікоў, але так-жа і адносна ўсіх іншых „апякуноў“ нашага народу.

**Вечарына ў Беларускай Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні** мае адбыцца 25.XI. с. г., падчас якой будуць толькі танцы. Пажадана, каб беларуская вучнёўская моладзь арганізавала вечарыны з якойсь культурнай імпрэзай напр. прадстаўленьнем. Сіл павінна хапіць.

**З выдавецкае нівы.** У другой палове м-ца лістапада вышла новая беларуская кніжыца, выданьня „Chryścijanskaje Dumki“ п. н. „31-šy Mižnarodny Eŭcharystyčny Kanhres“, др. К. Н. Кніжыца гэта мае 56 бачын і каштуе 1 экз. 50 гр.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. З жыцьця беларускае моладзі.** Вышаўшы нядаўна чарговы № 6 (23) „Беларускае Школы ў Латвіі“ прыносе ізноў цэнныя весткі аб Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі, якое ўсьцяж пашыраецца. Арганізацыя гэта далей ладзіць частыя беларускія вечарыны-спэктаклі, спартовыя конкурсы, а так-жа супольныя нарады.

**Беларуская студэнская арганізацыя пры Латвійскім Унівэрсытэце.** З ініцыятывы беларускіх студэнтаў у Латвійскім Унівэрсытэце ў Рызе: К. Мяжэцкага, П. Журкоўскага і Віткоўскага ў хуткім часе мае паўстаць беларуская студэнская арганізацыя п. н. «Аб'яднаньне Беларускага Студэнства Латвійскага Унівэрсытэту ў Рызе.»

## З жыцьця украінскае моладзі.

**Суд над Лэмыкам.** У пачатку м-ца лістапада с. г. у Львове адбыўся суд над украінскім студэнтам Лэмыкам, які застрэліў урадаўца Савецкага Консульства. Суд прысудзіў яго на дажывотную катаргу.

---

**ЖЫВЫ ЛАНЦУГ АХВЯР НА ВЫДАВЕЦТВА „ШЛ. МОЛАДЗІ“**

**Студэнт мэд. Я. Малецкі ахвяраваў на выдавецтва „Шляху Моладзі“ 5 зл. і заклікае зрабіць гэта самае ў davольнай вышыні і прадоўжыць ланцуг далей грам. грам.: Янку Быліну (беларускага паэта) і др. Браніслава Туронка.**

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# Usiačyna.

**Analfabetaŭ jašče mnoha.** Pavodle apošnich padličeńniaŭ na ziamli jašče 2/3 ludziej nia ŭmiejuć ani pisać, ani čytać. U Eŭropie i Amerycy kolkaść analfabetaŭ zmienšajecca, a ŭ niekatorych krajoch navat zusim ich niama. My, nažal, da hetych apošnich nia možam zaličycca,— a dobra było-b.

**Aeraplan biez latuna.** U Italii niadaŭna skonstruavali aeraplan, jaki moža latać biez latuna. Kiravać im budzie specyjalny aparat, pry pomačy elektryčnych fal vysyłanych z ziamli, abo z druhoha aeraplanu.

**50-lećcie samachodu.** Sioleta minaje 50 hadoŭ ad času, kali inž. Delamare-Deboteville, pry pomačy svajho mechanika, zbudavaŭ pieršy samachod.

**Literaturnuju naharodu Nobla** sioleta atrymaŭ rasiejski piśmieńnik emihrant Ivan Bunin. Heta jość pieršy rasiejski piśmieńnik, jaki atrymaŭ naharodu Nobla. Ivan Bunin choča byccam swajej naharodaj padzialicca z druhim rasiejskim piśmieńnikam — emihrantam Dźmitrom Mieražkoŭskim, jaki ŭ prošłym hodzie byŭ vysovyvany na kandydata da hetaje naharody i jaje nie atrymaŭ i jaki ŭ sučasny mament znachodzicca ŭ duža ciažkich varunkach žyćcia.

**Nobel'aŭskaj Naharody Miru** sioleta nichto nie atrymaŭ i nikomu jana ŭžo nia budzie pryznana. Moža i słušna, bo ciapier pieravažna ŭsie havorać i imknucca da vajny, a nie da miru.

**Škialet mamuta** Hazety padajuć, što ŭ Obdorsku, pry spadzie raki Ob u mora, u Sibiry znajdzieny dobra zachavany škialet vialikaha pradpatapovaha źviara mamuta. Kości mamutaŭ znachodziać časta, ale cełych škialetaŭ da hetaj pary znajdziena było ŭsiaho dva: adzin z ich znachodzicca ŭ Paryskim zoolohičnym muzeju, druhi — u Leninhradskaj Akademii Navuk. Znajdzieny ŭ Obdorsku škialet budzie trecim z čarhi na ŭsim śviecie.

**Pa 3-ch hadoch letarhičnaha snu zbudziłasia** ŭ Vienie Marja Biedermann. Kabieta heta zasnuła ŭ 1930 h., praz uvieś čas jana ničoha nie adčuvała, ale ŭściaž chudała. Karmili jaje štučnymi sposabami i dumali što užo chutka pamre. Jana adnak abudziłasia, papraŭlajecca i joj zdajecca, što jana spała ŭsiaho adnu noč. Prytym usio, što dziejłasia z joj pierad snom, dakładna pomnie.

**Francuskaja eskadra aeraplanaŭ ŭ Afrycy, nad Sacharaj.** Niadaŭna francuskaja eskadra, złožanaja z 27 aeraplanaŭ, vylecieła ŭ padarož nad Afrykaj. Maje jana pralatać nad Sacharaj. Pieršyja etapy hetaha lotu ŭdajucca dobra.

**Dzie i jak doŭhija byvajuć dni.** Daŭžynia dnia na ziamli ŭ roznych miascoch byvaje inšaja, i tak u Hamburzie (Niamieččyna) najdaŭžejšy dzień tryvaje 17 hadzin, najkaraciejšy—7. U Varšawie — 16 h. 43 min. — 7 h. 35 m.; u Štokholmie (Švecyja) — 18 h. 30 m. —5.30 h.; Leninhrad (S.S R.R.)—19 h.— 5 h.; u Vonderbus — (Norvehija) dzień tryvaje ad 21 traŭnia da 2 lipnia; a na Špicberhu (ledavity paŭnočny akijan) dzień tryvaje 3½ z pałovaj miesiacaŭ.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



